**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 43 (1020) 24 кастрычніка 2019 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by
vglybokaye.by




Залатая восень.
*Фота yandex.by*



**У мінулыя выхадныя на чыгунцы ў Віцебскай вобласці адбылося два ДТЗ.**

## На Віцебшчыне ў выхадныя адбылося два ДТЗ на чыгунцы: адзін чалавек загінуў, адзін — у шпіталі

Адзін чалавек загінуў, адзін — у шпіталі, паведамляе МУС. Каля паловы сёмага вечара 19 кастрычніка на чыгуначным перагоне Падсвілле - Крулява ляўшчызна пад грузавы цягнік Маладзечна - Полацк трапіў 72-гадовы жыхар Глыбоцкага раёна. Мужчына ехаў па пераезду на ровары, на сігналы машыніста лакаматыва не рэагаваў. Ён загінуў.

У першай гадзіне ночы 21 кастрычніка недалёка ад станцыі Жэфарава ў Пастаўскім раёне пад тарвняк трапіў 23-гадовы жыхар вёскі Лучай. Хлопец знаходзіўся на шляхах і таксама не чуў гукавыя сігналы. Цяпер ён у бальніцы. Па двух здарэннях праводзяцца праверкі.

*Прэс служба МУС*

ISSN 2077-8023






*Ва ўсіх паштовых аддзяленнях Віцебскай вобласці*
**можна выпісаць газету "Вольнае Глыбокае" на 2-е паўгоддзе 2019 г.**

## Віцебская вобласць

# Кандыдатаў хоць адбаўляй

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе на парламенцкіх выбарах у Беларусі працы ў членаў акруговых выбарчых камісій дабавілася адчувальна.**

Са звыш 700 жадаючых патрапіць у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў толькі ў Віцебскай вобласці падалі дакументы на рэгістрацыю ў якасці кандыдатаў 97 прэтэндэнтаў. Вось і прыйшлося правяраць усе прадстаўленыя імі дакументы, бо асобныя людзі вылучаліся адразу некалькімі спосабамі. Праўда, не ўсе зарэгістраваныя раней на Віцебшчыне 53 ініцыятыўныя групы справіліся з задачай сабраць неабходную тысячу подпісаў: з іх толькі 29 здалі такія дакументы ў падтрымку сваіх кандыдатаў. Аднак за кошт палітычных партый і працоўных калектываў у асобных акругах чакаецца сапраўдная барацьба за права атрымаць дэпутацкі мандат. У прыватнасці, абсалютным лідарам стала Аршанска-Дняпроўская акруга № 26, куды на чарговыя выбары вылучылася нават 10 патэнцыйных кандыдатаў. Ніхто не чакаў, што ў Пастаўскай акрузе № 30 з'явіцца 7 такіх прэтэндэнтаў, прычым усе чатыры з іх сабралі неабходную колькасць подпісаў. Таксама тут на выбары вылучыўся яшчэ і ад працоўнага калектыву старшыня Браслаўскага райаб'яднання прафсаюзаў Павел Сільчонак. Ад калектыву вылучылі ў Шаркоўшчынскім раёне і начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацбароне райвыканкама Веру Жук. А двое прэтэндэнтаў пайшлі на выбары толькі ад партый: пастаўчанін, прадпрымальнік Дзмітрый Танана ад КПБ, а жыхарку абласнога цэнтра, дырэктара ТАА "ЕМС-Транс" вылучыла ЛДП. Калі не будзе адсеву, то будзе конкурс на выбарах і ў Докшыцкай акрузе № 22, дзе зноў балатуецца спікер парламента Уладзімір Андрэйчанка: у яго могуць быць тры канкурэнты.

## Віцебская вобласць

# Ні дня без аварый

■ Станіслаў Раманчук

**Сёлетняя восень застаецца даволі дажджлівай, палі гаспадарак вобласці з-за гэтага сталі моцна пераўвільгатнёнымі і там складана весці азімую сяўбу і ўборку ўраджаю.** Таксама даволі неспакойна і на дарогах Прыдзвіння, дзе рэдкі дзень абыходзіцца без сур'ёзных аварый. Вось і ў Глыбоцкім раёне днём нядаўна зафіксавалі чарговае ДТЗ са страшнымі наступствамі. У той дзень залятаў мокры снег, траса Р-45 Полацк-Глыбокае-граніца Латвіі была мокрай і слізкай. Падобныя фактары, напэўна, не ўлічыў вадзіцель Audi, які не справіўся з кіраваннем і выскачыў на сустрэчную паласу. Па ёй ехаў на фуры Mercedes кіроўца з абласнога цэнтра. У выніку моцнага лабавога сутыкнення іншамарку вымінула на ўзбочыну дарогі, ад машыны засталася фактычна груда металу. Ад атрыманых траўм на месцы аварыі загінуў не толькі кіроўца іншамаркі, але і ехаўшы з ім пасажыр. На шчасце, вадзіцель грузавіка не пацярпеў, толькі перажыў шок. Яму дапамога прыехаўшых па выкліку медыкаў не спатрэбілася, а на месцы жудаснага ДТЗ працавалі іншыя спецыялісты і следчыя.

Неўзабаве раніцай ужо ў абласным цэнтры вадзіцель тралейбуса на павароце збіў і параніў мужчыну. Яшчэ адзін пешаход, 64-гадовая жанчына ў Віцебску, толькі вечарам, была збіта іншамаркай і патрапіла з траўмамі ў бальніцу. У абласным цэнтры пад суд пойдзе і 34-гадовы ўладальнік электрасамаката, які яшчэ летам наехаў на тратуары на дзвюх жанчын і ўцёк з месца здарэння. Віноўніка аварыі міліцыя знайшла, супраць яго завялі крымінальную справу, апісалі маёмасць і ён знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе. У непрыемную гісторыю патрапіў і жыхар Шуміліна такога ж узросту, які збіў на веласіпедзе пенсіянерку, нанёс ёй цяжкія траўмы і цяпер вымушаны адказваць на непрыемныя пытанні следчых па падобнай справе.

## Глыбоцкі раён

# Асцерагайся такіх "землякоў"

■ Чэслаў Якубовіч

**Сучасны свет становіцца ўсё больш цынічным і страшным, бо беларусаў сталі збіваць нават за тое, што пайшоў у туалет без чаргі.**

Уваходзіць у моду для мярзотнікаў вырашаць свае праблемы з дапамогай нажа ці іншага рэжучага прадмета. Гучную крымінальную справу па замаху на забойства распачаў Следчы камітэт у Глыбокім у пачатку кастрычніка. Там напрыканцы працоўнага тыдня двое маладых хлопцаў вырашылі паехаць разам у суседнюю Літву, дзе старэйшы з іх працаваў вадзіцелем-дальнабойшчыкам. Яго і папрасіў завезці туды маладзейшы, 24-гадовы знаёмы. Што цікава, апошні быў вінаваты свайму земляку пэўную суму грошай і патлумачыў, што ў літоўцаў заробіць грошай і верне доўг. На самой справе, малады мужчына і не думаў такое рабіць, распрацаваў бандыцкі план. Падчас руху ў машыне мярзотнік ударыў нажом вадзіцеля. Пацярпелы выскачыў з аўтамабіля, калі на вуліцы было яшчэ цёмна, каля 5 гадзін раніцы. Аднак агрэсіўны пасажыр з нажом стаў даганяць сваю патэнцыйную ахвяру і яшчэ раз ударыў нажом. Давесці да канца сваю злачынную мэту 24-гадовы нападаўшы не змог, бо старэйшы глыбачанін аказаў супраціўленне. Вадзіцеля з раненнямі змясцілі на лячэнне ў бальніцу, дзякуй Богу, яго жыццю і здароўю пагрозы няма. А вось бандыта з нажом затрымалі, за замах на спланаванае забойства яго будуць судзіць па ўзбуджанай крымінальнай справе.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 24.10.19 | | | | Пятніца 25.10.19 | | | | Субота 26.10.19 | | | | Нядзеля 27.10.19 | | | | Пн.28 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +7 | +8 | +11 | +7 | +7 | +9 | +15 | +10 | +10 | +8 | +14 | +11 | +10 | +12 | +16 | +8 | +7 |
| Ціск | 751 | 751 | 752 | 751 | 750 | 748 | 747 | 747 | 749 | 750 | 747 | 745 | 743 | 740 | 739 | 742 | 744 |
| Вецер м/сек | 2 | 2 | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 4 | 5 | 3 | 6 | 7 | 7 | 7 | 10 | 8 | 6 |
| | Пд-З | З | З | Пд-У | Пд-У | Пд-У | Пд | Пд-З | З | З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | З | З |
| Вільготнасць | 93 | 97 | 71 | 86 | 94 | 100 | 79 | 92 | 94 | 99 | 69 | 85 | 94 | 95 | 75 | 66 | 88 |

# ПАКУЛЬ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ ВЕЛЬМІ СУР'ЁЗНЫМ ЗАСТАЕЦЦА ГАЗАВАЕ ПЫТАННЕ, СУСЕДНЯЯ ПОЛЬШЧА ЎЖО ПРАЗ 3 ГАДЫ ПОЎНАСЦЮ АДМОВІЦЦА АД ГАЗУ З РАСІІ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Праз лічаныя тыдні стане вядома, як рускія павядуць справы з намі па газавым пытанні, ці будуць цэны на газ выводзіцца па формуле, як для расійскіх рэгіёнаў. Пакуль жа і іншыя дзяржавы ЕС павялічылі аб'ёмы закупак звадкаванага газу з ЗША і дастаўкі яго танкерамі замест газаправодаў.**

У пачатку кастрычніка вельмі актыўна многія беларусы сталі ўдзельнічаць у перапісе насельніцтва ды так дружна, што не маглі нармальна працаваць серверы Белстата. За першыя чатыры дні гэтай кампаніі ў нашай краіне "перапісаўся" мільён чалавек, з якіх больш паловы праз інтэрнэт. Яшчэ адной значнай навіной стала, што аплату па сабекошту камунальных паслуг для "дармаедаў" перанеслі на 1 мая наступнага 2020 года. А вось з 21 кастрычніка зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты парламента атрымалі магчымасць для кароткіх выступленняў па працоўных днях па тэлебачанні.

Аднак якія выбары ў нас, яскрава засведчыла тое, што ў склад участковых выбарчых камісій па ўсёй Беларусі ўключылі толькі трох прадстаўнікоў апазіцыі з 401 вылучанага. Увогуле апошнім часам хапала і іншых сумных падзей. У беларускую сталіцу не прыехала глава еўрапейскай дыпламатыі, бо ў той час у краіне адсутнічаў А. Лукашэнка, які адправіўся на II Форум народаў Беларусі і Украіны. У нашай краіне працягвала зніжацца колькасць прыхільнікаў інтэграцыі з Расіяй (да 54,5 %) і толькі чвэрць беларусаў (25 %) былі за саюз з Еўропай, як засведчылі сацыёлагі.

Аднак у адносінах з Крамлём па-ранейшаму шмат рознагалоссяў. Абодва бакі не дамовіліся зноў за два гады аб адмене роўмінгу паміж мабільнымі аператарамі Беларусі і Расіі. Расійскі бок абвінавачіў беларусаў у тым, што на нашу тэрыторыю не пускаюць хлеб з РФ і дэмпінгуюць з цэнамі пры пастаўках малочнай прадукцыі. У Маскве адкрытым тэкстам сказалі, што не падзяляюць ацэнку беларускага кіраўніцтва накont сітуацыі на Данбасе. Беларускі лідар на "Мінскім дыялогу" па бяспецы заявіў, што без удзелу ЗША ўкраінскую праблему не вырашыць, назваў свайго калегу У. Зяленскага ўкраінскім патрыётам і што там прамы канфлікт Расіі і Украіны.

Тут з А. Лукашэнкам трэба поўнасцю згадзіцца, аднак пуцінскі прэс-сакратар Д. Пяскоў зноў нахабна стаў хлусіць і даказваць свету, што вострае і нават ваеннае супрацьстаянне там – гэта нібыта ўнутрыўкраінскі канфлікт, а белая і пушыстая Расія ніякім бокам не мае адносін да ўзнікшых праблем. У такіх вось умовах міжволі закрадваецца сумненне, што лідары дзвюх саюзных краін у снежні ў Маскве нешта падпішуць разумнае, а не дэкларатыўнае на звілістай дарозе сумеснай інтэграцыі. На ёй тым часам паўстала сур'зная яма. Патрабуецца ўзгадніць пытанне аб далейшай цане для Беларусі на газ з 2020 года.

Яшчэ адна праблема ўзаемаадносін – кампенсацыя падаткавага нафтавага манеўру Расіі. Для нас гэта значныя страты, асабліва напярэдадні новых прэзідэнцкіх выбараў, вось чаму пагадзіцца на дарожныя карты інтэграцыі. Расія скарысталася момантам і выставіла больш жорсткія ўмовы збліжэння, абмежавання значнай часткі нашага суверэнітэту. Аднак цяпер на расійскі шантаж і пагрозы нашы суседзі рэагуюць па-свойму рашуча. Вось суседняя Польшча вырашыла не працягваць пасля 2022 года кантракт аб закупках расійскага газу. Палякі заявілі, што праз 39 месяцаў яны спыняць купляць у "Газпрама" блакітнае паліва.

Ужо відавочна, што рускія неўзабаве страцяць свой буйны рынак збыту газу ў Еўропе. Вясной будучага года нашы заходнія суседзі пачнуць будаўніцтва праз Данію "Балтыйскай трубы", па якой палякам штогод будзе пастаўляць 10 млрд. кубаметраў газу з Нарвегіі. Менавіта столькі яны куплялі паліва ў рускіх. Адначасова дадатковая яшчэ да 7,5 млрд. звадкаванага прыроднага газу Польшча будзе атрымоўваць на ўзводзімым пабліzу ФРГ у Свіноўйсьце марскім тэрмінале. Туды паліва будуць дастаўляць танкерамі з Катара і іншых багатых энерганосьбітамі краін. Гэты тэрмінал імя загінуўшага прэзідэнта Леха Качыньскага ўжо дзейнічаў, зараз на ім дабавяць яшчэ адзін рэзервуар для газу і закрыюць свае патрэбнасці ў газе.

Падобным чынам сталі дзейнічаць і літоўцы, яны маюць такі тэрмінал у Клайпедзе. Дзякуючы яму дабіліся ад "Газпрама" больш прывабных цэн на паліва і сталі меней яго закупляць. У палякаў яшчэ адзін буйны тэрмінал можа з'явіцца і ў Гданьску для забеспячэння паставак амерыканскага газу Украіне праз Польшчу. Як бачна, на адных нахабных рускіх свет клінам не зышоўся. Можа быць такое, што ў буйнога расійскага манапаліста неўзабаве настануць яшчэ больш цяжкія часы, бо Украіна, Польшча і ЗША падпісалі дагавор аб газавым супрацоўніцтве.

А праз лічаныя тыдні стане вядома, як рускія павядуць справы з намі па газавым пытанні, ці будуць цэны на газ выводзіцца па формуле, як для расійскіх рэгіёнаў. Пакуль жа і іншыя дзяржавы ЕС павялічылі аб'ёмы закупак звадкаванага газу з ЗША і дастаўкі яго танкерамі замест газаправодаў. Адначасова з гэтым і беларусам трэба думаць аб паспяхоўных структурных рэформах сваёй эканомікі. Пакуль жа газ для нас сёлета каштаваў па 130 долараў і быў самым танным не толькі ў Еўропе, але і ўнутры СНД. З іншага боку "Газпром" нідзе болей у свеце, акрамя Беларусі, не валодае поўнасцю газатранспартнай сістэмай. Калі цэны на газ для нас рускія з наступнага года павысяць адчувальна, гэта будзе свінскі ўчынак, бо газ у Еўропе таннее за кошт з'яўлення альтэрнатыўных варыянтаў такіх паставак.

## Дзень за днём

**А. Лукашэнка заявіў аб стварэнні айчынных ракет сярэдняй дальнасці. АБСЕ прышле назіральнікаў на парламенцкія выбары. У лютым Беларусь павысіць тарыфы на транспарціроўку нафты. “Нафтагаз Украіны” пачаў закупляць электраэнергію ў Беларусі. На Беларускай атамнай электрастанцыі выявілі сур’ёзныя недахопы ў сістэме кандыцыянавання. Карту паляка атрымалі амаль 137 тысяч беларусаў. ЗША пабудуюць новае пасольства ў Мінску. На ўездзе ў Беларусь адкрыюць яшчэ 4 магазіны duty free. У буйных гарадах грамадскі транспарт зробяць электрычным, а хуткасць руху абмяжуюць да 50 кіламетраў у гадзіну.**

# Важнейшыя навіны свету

**ФРГ.** Услед за ЗША канцлер А. Меркель і лідары Францыі, Англіі ўсклалі на Іран адказнасць за ракетныя абстрэлы і атакі беспілотнікаў на НПЗ у Саудаўскай Аравіі.

**Польшча.** Прэзідэнт А. Дуда дамовіўся з Д. Трампам аб павелічэнні ваеннага кантынгента ЗША ў краіне да 5,5 тысяч ваенных і адмене ўязных віз для палякаў да Каляд.

**Англія.** Вярхоўны суд прызнаў незаконным рашэнне прэм’ер-міністра Б. Джонсана адправіць парламент на прымусовыя канікулы, бо для гэтага не было падстаў.

**Украіна.** Публікацыя стэнаграмы тэлефоннай размовы Д. Трампа з У. Зяленскім абодвух паставіла ў няёмкае становішча, лідар краіны абвергнуў, што на яго быў ціск ЗША.

**Расія.** За пастаўкі ў Сірыю авіяцыйнага паліва ваенным у абыход санкцый ЗША ўвялі новыя санкцыі супраць кампаніі “Саўфрахт” і яшчэ 5 расійскіх суднаў.

**Саудаўская Аравія.** ЗША накіравалі каралеўству 4 радыялакацыйныя сістэмы, зенітна-ракетныя комплексы Patriot і 200 ваеннаслужачых для ўмацавання яго абараназдольнасці.

**Кітай.** Каб узмацніць свой уплыў у свеце, улады КНР пачалі рэалізацыю звыш 3 тысяч праектаў у розных краінах, з 2013 года аб’ёмы інвестыцый дасягнулі 285 мільярдаў долараў.

**Літва.** Глава МЗС Л. Лінкявічус запрасіў дзяржаўную дэлегацыю з Беларусі на перапахаванне знойдзеных астанкаў паўстанцаў 1863-1864 гадоў у Вільню ў лістападзе.

**Украіна.** Глава сепаратыстаў на Данбасе Д. Пушылін заявіў, што так званая “ДНР” не мае патрэбы ў міратворцах з Беларусі для забеспячэння парадку ў сябе і на граніцы.

**Іспанія.** Вярхоўны суд дазволіў ураду краіны эксгуміраваць астанкі экс-дыктатара Ф. Франко з базілікі-мемарыяла пад Мадрыдам і перазахаваць іх на простых могілках.

**Узбекістан.** Групу чыноўнікаў з Ташкента, якія займаліся адпраўкай узбекаў на працу ў Карэю, прызналі вінаватымі ў карупцыі і асудзілі на працяглыя тэрміны зняволення.

**Кітай.** У Пекіне адкрылі самы вялікі ў свеце аэрапорт плошчай 700 тысяч кв. метраў у форме марской зоркі з 4-мя ўзлётна-пасадачнымі палосамі коштам 11 млрд. долараў.

**ЗША.** Вучоныя ўніверсітэта Віскансіна распрацавалі бейсболку, якая стымулюе рост валасоў, дапамагае замарудзіць або прадухіліць аблысенне галавы людзям.

**Японія.** Глава АКР Расіі С.Пазднякоў назваў рэальнай пагрозу, што зборную РФ не дапусцяць да Алімпіяды-2020 у Токіо з-за махінацый з допінгам у Маскве.

**Расія.** Шанцаў у нас 0 паехаць на Алімпіяду, як заявіў экс-глава Дзяржкамспорта РФ В. Фецісаў, калі адбываліся махінацыі ў Маскоўскай антыдопінгавай лабараторыі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Прэм’ер-міністр Беларусі С. Румас заявіў гендырэктару карпарацыі “Расатам” А. Ліхачову, што перад пускам у эксплуатацыю БелАЭС ёсць спрэчныя пытанні.

**Гродна.** На граніцы віцэ-спікеру Сейма Польшчы М. Госеўскай пагранічнікі паведамілі, што Расія забараніла ёй уезд у краіну, ёй зрабілі выключэнне і пусцілі ў Беларусь.

**Мінск.** Пад прэзідэнцкія выбары, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, С. Румас можа з трэскам паляцець з пасады, як А. Кабякоў, стаць рытуальнай ахвярай для электарата.

**Барысаў.** На аўтазаводзе “БелДжы” намецілі ў наступным годзе выпусціць 30-35 тысяч легкавых аўтамабіляў, з якіх 10 тысяч рэалізаваць на беларускім рынку.

**Мінск.** А. Лукашэнка прызнаўся, што сказаў Пуціну: калі ва ўрадзе або ў цябе думка, што мы можам увайсці ў склад Расіі ці неяк аб’ядналіся з РФ у адну дзяржаву – выкінь з галавы.

**Мазыр.** Беларуская нафтавая кампанія ажыццявіла пробную пракачку 8 тысяч саляркі з мясцовага НПЗ ва Украіну па нафтаправодзе “ПрыкарпатЗахадтранс”, будзе рост паставак.

**Ліда.** Мясцовыя півавары пачалі выпуск асабліва мяккага крафтавага піва АСА, якое карыстаецца асаблівай папулярнасцю ў ЗША і стала падабацца еўрапейцам.

**Мінск.** Больш напружаныя планы росту эканомікі, як патрабуе А. Лукашэнка, папярэдзіў эканаміст В. Іасуб, урад не выканае, бо няма для гэтага падстаў, нам пагражае рэцэсія.

**Смалявічы.** У Міністэрстве транспарту і камунікацый стварылі міжгаліновую камісію, каб разабрацца з прычынамі знікнення электрычнасці ў Нацыянальным аэрапорце “Мінск”.

**Карэлічы.** Некалькі тыдняў рыхтавалі райцэнтр да прыезду главы краіны, аднак ён туды не заглянуў, ля льнозавода паклалі новы асфальт і пасыпалі цэментам, каб выглядаў лепш.

**Нароўля.** Ад атрыманых апёкаў памёр у бальніцы работнік фермы адной з гаспадарак раёна, які падчас пажару выратаваў ад гібелі прывязанага ў палаючым ангары каня.

**Мінск.** Калі А. Лукашэнка, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, і прызначыць пераемніка, то ў самы апошні момант, калі гэта навогул адбудзецца, транзіт улады – заўсёды рызыка.

**Маладзечна.** З Беларусі выслалі на радзіму двух грамадзян Расіі ва ўзросце 29 і 31 гадоў за частыя сямейныя скандалы, супраціўленне міліцыянеру і распіццё алкаголю.

**Крычаў.** Падчас працы на прысядзібным участку трагічна загінуў 64-гадовы мужчына, ён патрапіў у лопасці фрэзы свайго культыватара і памёр на месцы здарэння.

**Заслаўе.** З-за пажару раніцай у падвальным памяшканні з будынка мясцовай СШ № 2 эвакуіравалі да прыбыцця МНС 738 вучняў і педагогаў, пацярпелых не аказалася.

Мінск. Амерыканскі хакейны нападаючы “Дынама” Шэйн Прынс заявіў, што Беларусь – на 95 % Еўропа і моцна адрозніваецца ад Расіі, ён прыме беларускае грамадзянства.

# Выступленні кандыдатаў у дэпутаты па ТБ і радыё пачаліся ў Беларусі



■ Кар. БЕЛТА.

**Пачаліся выступленні кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў сёмага склікання па ТБ і радыё, паведамляе БЕЛТА.**

Усе кандыдаты па Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцях, а таксама па горадзе Мінску атрымалі магчымасць выступіць на тэлеканале «Беларусь 3», а па Мінскай вобласці - на СТБ. Выступленні пройдуць у рабочыя дні па 6 лістапада. Працягласць кожнага абмежавана пяццю хвілінамі. Па тэлебачанні яны будуць трансліравацца ў вячэрні прайм-тайм - з 19.00 да 20.40. Выключэнне - 22 і 29 кастрычніка, калі эфірны час прадастаўляецца з 19.00 да 19.30, з улікам сеткі вяшчання тэлеканала «Беларусь 3». Радыёвыступленні можна будзе паслухаць з 7.00 да 8.00. Эфірны час кандыдатаў, якія будуць балаціравацца па Мінску, выдзеліць «Радыё-Мінск», па Мінскай вобласці - радыёстанцыя «Мінская хваля». Тым, хто будзе вылучацца па іншых абласцях, час прадаставяць адпаведныя абласныя тэлерадыёкампаніі. Парадак арганізацыі і правядзення дэбатаў, даты іх правядзення і вядучага вызначаюць тэлерадыёкампаніі. Эфірны час рэзервуецца з разліку не больш як пяць хвілін аднаму кандыдату. Сваю перадвыбарную праграму прэтэндэнты на месцы ў парламенце маюць права апублікаваць або ў адной з рэспубліканскіх газет («Звязда», «Рэспубліка»), або ў адпаведнай абласной газеце, або ў раённых, гарадскіх газетах, якія выдаюцца на тэрыторыі іх акругі. Тэкст кандыдаты павінны прадставіць у СМІ не пазней за 27 кастрычніка. Выбары ў Палату прадстаўнікоў назначаны на 17 лістапада, у Савет Рэспублікі - на 7 лістапада.

# Еўропа ў нядзелю пераводзіць стрэлкі гадзіннікаў. Што гэта азначае для Беларусі

■ NN.by

У ноч на нядзелю краіны Еўропы пераходзяць на зімовы час: гадзіннікі будуць пераведзеныя на гадзіну назад.

Нагадаем, што Еўрапейскі саюз вырашыў спыніць перавод стрэлак кожныя вясну і восень, аднак дзяржавы павінны самі вырашыць, які час пакінуць у якасці пастаяннага — зімовы ці летні. Але пытанне будзе вырашанае, хутчэй за ўсё, не раней за 2021 год. Вось Літва і Латвія хоча застаца ў летнім часе, а Эстонія аддае перавагу зімоваму часу, каб быць разам з Фінляндыяй.

Беларусь ад 2012 года стрэлкі не пераводзіць. Гэта азначае, што з нядзелі розніца ў часе з Вільняй, Рыгай і Талінам складзе гадзіну, а з Варшавай і Берлінам — дзве гадзіны. Пераводзіць стрэлкі і Украіна. Розніца ў часе паміж Мінскам і Кіевам складзе таксама гадзіну.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў пацвердзіў, што рэгіёну пастаўлена задача ў 1,5 разы павялічыць вытворчасць ільновалакна, мадэрнізуем заводы Міёр і Верхнядзвінска.

**Мёры.** Днём на тэрыторыі філіяла Полацкага ААТ “Малако” адбыўся выкід аміяку, персанал пакінуў прадпрыемства, эвакуіравалі суседнюю школу да ліквідацыі аварыі.

**Лынтупы.** У суседнюю Літву на трэніровачны палігон ля горада Пабрадэ ў 10 км ад граніцы прыбыў танкавы батальён ЗША з 30 танкаў “Абрамс”, 25 БМП “Брэдлі”.

**Орша.** Пасля перапынку мясцовы авіярамонтны завод зноў завалілі заказамі на рамонт верталётнай тэхнікі розных мадыфікацый, раней там была складаная сітуацыя.

**Лёзна.** Кампанія “Ветраватт” на тэрыторыі раёна запусціла 2 ветрагенератары коштам 21 мільён рублёў, яшчэ 7 установак магутнасцю 25 МВт электраэнергіі ўзвядуць туркі.

**Полацк.** Міліцыя затрымала 50-гадовага жыхара Докшыц, які на падпітку зайшоў у адзін з магазінаў горада, дастаў нож і стаў патрабаваць грошай у работніцы гандлёвага цэнтра.

**Браслаў.** Да абласных “Дажынак” у райцэнтры капітальна адрамантавалі гарадскі стадыён, 16 шматпавярховых жылых дамоў, з’явілася пешаходная вуліца, сад камянёў.

**Паставы.** Навучэнец дзяржкаледжа Арцём Пестух атрымаў у Нур-Султане прэмію ЕАЭС патэнтнай Універсіяды “Погляд у будучае” за распрацаваны стэнд дыягностыкі аўто.

**Дуброўна.** Ля вёскі Барствінава за незаконную лоўлю рыбы сеткамі на Дняпры затрымалі групу браканьераў з Оршы, супраць іх распачалі крымінальную справу, яны – пад вартай.

**Віцебск.** Да абласных “Дажынак-2020” намецілі пусціць транспарт па новым Полацкім пуцеправодзе, адкрыць новую школу ў Білёва і смеццесартыравальны завод.

**Полацк.** Вечарам 26-гадовы кіроўца з Навапалацка без правоў на падпітку падчас абгону не справіўся з кіраваннем і збіў дзвюх 14-гадовых дзяўчынак, адна з іх памерла ў шпіталі..

**Докшыцы.** Ноччу ў вёсцы Гарадзішча 19-гадовы мясцовы жыхар едучы на матацыкле збіў 18-гадовую дзяўчыну, пацярпелую з цяжкімі траўмамі паклалі ў райбальніцу.

**Глыбокае.** Навучэнцы прафесіянальнай школы горада Хільдбургхаўзен (ФРГ) цэлы дзень правялі ў раённай гімназіі, разам з глыбачанамі наведалі Полацкі дзяржаўны універсітэт.

**Орша.** Толькі з дапамогай спецтэхнікі міліцыя затрымала 44-гадовага злодзея-рэцыдывіста з прыгарада, які абкрадаў дамы і схаваўся ў кватэры з металічнымі дзвярмі.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# «Кіроўца і пешаход, паважайце пешаходны пераход!»



**Аляксандр Палілейка,** *старшы інспектар ДПС аддзела ДАІ МОБ Глыбоцкага РАУС.*

**25 кастрычніка 2019 года ў Рэспубліцы Беларусь пройдзе Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад назвай «Кіроўца і пешаход, паважайце пешаходны пераход!», накіраваны на прафілактыку ДТЗ на пешаходных пераходах.**

Наезд на пешахода застаецца самым распаўсюджаным відам дарожна-транспартных здарэнняў. Узаемаадносіны паміж кіроўцамі і пешаходамі заўсёды напружаныя. Будучы кіроўцамі – папракаем пешаходаў за няспрытнасць і марудлівасць, а калі становімся пешаходамі, у адрас вадзіцеляў мы кідаем папрокі ў непавазе і няўважлівасці.

Перасякаць праезджую частку дарогі пешаходы павінны па пешаходных пераходах, а ў выпадку іх адсутнасці – на скрыжаваннях па лініі тратуараў і абочын. Пры адсутнасці ў зоне бачнасці абазначаных пешаходных пераходаў пешаход павінен перайсці праезджую частку дарогі пад прамым вуглом да яе падоўжнай восі, што забяспечыць найменшы перыяд часу знаходжання пешахода на праезджай частцы дарогі. Пры пераходзе дарогі пешаходам неабходна быць асабліва ўважлівымі, злы жарт можа сыграць з пешаходам уключаны плэер або размова па мабільным тэлефоне.

Для пешаходаў адным з самых дзейсных спосабаў засцерагчы сябе на дарозе – абавязковае выкарыстанне святловяртальных элементаў, што замацавана Правіламі дарожнага руху. У Кодэксе Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях прадугледжана накладанне штрафу ў памеры ад 1 да 3 базавых велічынь за парушэнне правілаў дарожнага руху пешаходам. Калі парушальнік у дадатак яшчэ і ў стане ап'янення, то сума штрафу павялічваецца ад 3 да 5 базавых велічынь.

Пагадзіцеся, заўсёды прыемна, калі кіроўца аўтамашыны саступае дарогу ў пазначаным для пераходу месцы. У кіроўцы, у сваю чаргу, выклікае павагу пешаход, пазначаны святлоадбівальнымі элементам.

# У Браславе пачалі прадаваць ваду, літр каштуе 20 капеек

**Так званую «жывую» ваду пачалі прадаваць у Браславе, для гэтага на адной з аўтамыек ўсталявалі спецыяльны аўтамат.**

Вендынгавы апарат, у якім прадаецца, па сутнасці, звычайная вада пасля дадатковай ачысткі з'явіўся ў райцэнтры на аўтамыйцы самаабслугоўвання, якая належыць мясцоваму прадпрымальніку.

Рэкламу навінкі надрукавала раённая газета «Браслаўская звязда». Мяркуючы па нататцы, у ўстаноўцы прадаецца вада, якая прайшла ачыстку па тэхналогіі зваротнага осмасу. Прынцып такой ачысткі заснаваны на выкарыстанні мембран, якія прапускаюць рэчывы памерам з малекулу вады і менш, адфільтроўваючы такім чынам розныя прымешкі. На выхадзе атрымліваецца вада, вельмі блізкая дыстыляванай.

Цана за літр такой вады, адвочна, набранай у сваю тару, заяўленая ў 20 капеек. Паўтаралітровую бутэльку пітной вады ў краме можна знайсці за 59 капеек.

Кошт падобнага вендынгавага аўтамата для продажу пітной вады на сайце расійскага вытворцы указана ў 4800 рублёў з сістэмай ачысткі, адзін модуль разліву, які прадае прывазную ваду, абыдзецца амаль у два разы танней.

*Паводле «Браслаўская звязда».*



# У Глыбоцкім раёне 22-гадовы хлопец спаліў суседу хату





**Асабісты канфлікт паміж жыхарамі вёскі Станулі доўжыўся некалькі гадоў і прывёў да сур'ёзнага інцыдэнту, паведамляе міліцыя вобласці.**

У ноч з 10 на 11 кастрычніка 22-гадовы хлопец, работнік мясцовага сельгаспрадпрыемства, прыйшоў да дома суседа. Пры сабе малады чалавек меў дзве бутэлькі з бензінам. Адну з іх ён запаліў і кінуў у сцяну, другую - у акно. Полымя імгненна ахапіла дах і ўнутранае памяшканне. 54-гадовы гаспадар паспеў пакінуць будынак і не пацярпеў.

Пажар знішчыў цагляны дом практычна цалкам. Шкода склала 25 тыс. рублёў.

*nn.by*

# Што рабіць пры выяўленні параненай, хворай або загінулай дзікай капытнай жывёлы?

**Сяргей Ермакоў,** *старшы дзяржінспектар Глыбоцкай МРІ АЖ і РС.*

**У інспекцыю даволі часта звяртаюцца грамадзяне з падобным пытаннем.**

Разам з тым адказ на яго выразна выкладзены ў Правілах вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання. Пунктам 146 Правілаў устаноўлена, што пры выяўленні ў паляўнічых угоддзях і (або) на тэрыторыях, не ўключаных у фонд паляўнічых угоддзяў, у тым ліку на дарогах, параненых, траўмаваных, хворых або загінулых дзікіх жывёл забараняецца самавольна здабываць іх, разбіраць або перамяшчаць (транспартаваць) іх тушы або часткі туш, выкарыстоўваць прадукцыю (мяса, скуру, рогі і іншае). У выпадку выяўлення параненай, траўмаванай, хворай або загінулай паляўнічай жывёлы нарміраваных відаў (у тым ліку дзікай капытнай жывёлы) або дзікай жывёлы відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, асоба, якая знайшла такую жывёлу, павінна паведаміць карыстальніку паляўнічых угоддзяў, альбо ў аператыўна-дзяжурную службу тэрытарыяльнага органа ўнутраных спраў, або ў дзяжурную службу раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях, якія абавязаныя перадаць дадзенае паведамленне службовай асобе карыстальніка паляўнічых угоддзяў або мясцовага выканаўчага і распарадчага органа. Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы і карыстальнікі паляўнічых угоддзяў абавязаны прадставіць у тэрытарыяльныя органы ўнутраных спраў і раённыя аддзелы па надзвычайных сітуацыях кантактныя тэлефоны службовых асоб, упаўнаважаных прымаць рашэнне па арганізацыі выратавання або здабычы параненай, траўмаванай, хворай паляўнічай жывёлы. Па факце выяўлення параненай, траўмаванай, хворай або загінулай паляўнічай жывёлы нарміраваных відаў службовая асоба карыстальніка паляўнічых угоддзяў, а ў фондзе запасу паляўнічых угоддзяў альбо на тэрыторыях, не ўключаных у фонд паляўнічых угоддзяў, – упаўнаважаная службовая асоба мясцовага выканаўчага і распарадчага органа з удзелам прадстаўнікоў арганізацыі Міністэрства лясной гаспадаркі і тэрытарыяльнага органа Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама спецыяліста дзяржаўнай ветэрынарнай службы (калі жывёла хворая або тая, што загінула) складаюць акт, пасля чаго пры неабходнасці ў іх прысутнасці праводзіцца здабыча параненай, траўмаванай або хворай паляўнічай жывёлы. Перамяшчэнне (транспарціроўка), разделка паляўнічых жывёл без наяўнасці акта, складзенага ў названых вышэй выпадках, забароненыя.



Звяртаем асаблівую ўвагу, што незаконны (у тым ліку самавольныя) перамяшчэнні (транспарціроўка) або разделка дзікіх капытных жывёл, у тым ліку загінулых, або іх частак, з'яўляюцца крымінальна каральнымі дзеяннямі, адказнасць за здзяйсненне якіх устаноўлена часткамі 2, 3 артыкула 282-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8(02156)5-59-70 або на мабільныя тэлефоны: МТС 822-32-79, МТС 769-79-11, МТС 216-47-84.

# У Мінску і абласных цэнтрах 20 кастрычніка пабіты тэмпературныя рэкорды

**Пра гэта БелТА паведамілі ў Гідрамеце.**

Цяплей за ўсё ў нядзелю было на метэастанцыі Палеская (Лунінецкі раён) — + 22,5. У Мінску — +20,1. Папярэдні рэкорд быў ў 1966 годзе — +17,4.

У Брэсце 20 кастрычніка было +21,7, у Гомелі 20,4, Гродне +19,1, Магілёве — +18,8, Віцебску — +18,4.

*nn.by*

# Віцяблянку, якая крала на рынках, затрымалі ў Докшыцах

**11 кастрычніка, на рынку ў Докшыцах з доказамі злачынства была злоўленая 54-гадовая жыхарка Віцебска, якая выкрала кашалёк.**

Жанчына выкрала кашалёк з гандлёвай палаткі мясцовага індывідуальнага прадпрымальніка, у ім было 350 рублёў.

Затрыманая жанчына раней ужо была судзімая за аналагічныя злачынствы.

Таму міліцыя мяркуе, што яна можа быць датычная да здзяйснення падобных крадзяжоў у іншых гарадах Віцебскай вобласці.

*Іван Дзедушкін*

# Скажы, што беларуска

**Ёсць нейкая адмоўная сіла, якая дзейнічае і перашкаджае зрабіць штосьці добрае.**

**У суседкі Ядзі юбілей, і яна прагне мець да яго верш. Хоча, каб у раёнцы паведамілі, што вось яна – Ядзя -- нарадзілася. А тут якраз і перапіс ідзе… І я намерылася "запусціць" вершаваны зварот да юбіляркі. Тэкст уклала ў канверт і адаслала ў паштовую скрыню "Вольнага Глыбокага". Аж кажа мне рэдактар: "Дык няма ж таго адраса даўно ўжо! Скрыняй не карыстаюся."**

**Што ж рабіць? Паспрабую дагнаць час. А верш во такі.**

*Марыя Баравік*



Семдзясят. Як нібы не да смеху.
Усур'ёз гаворыць часу веха.
Дык няхай блішчыць такая дата
І ператвараецца у свята.
І трывогай думка не пацее,
Што жыццё зямное карацее.
Аператар ільнянога цэха,
Юбілярка Ядзя –
Я ж не смехам,
Я пішу ўсур'ёз на твой "заказ":
"Юбіляркай быць табе не раз!"
Во – няма завода, а ты – ёсць!
Помніш ільняную прыгажосць?
Валакно было, як валасы,
З долу паўставала і з расы,
Бегла з рук гарачых у станок –
Спрытам перамацаны лянок.
Дык няма яго які ўжо год.
Знік наш гонар працы – льнозавод.
І паблёкла ў вобласці Падсвілле.
Мы тут, як гракі, але без крылля,
Як без дрэва, на якім жыццё.
Чахнем думкай, Ядзя, не расцём.
Але думай ты шырэй – не вузка:
Перапісчык хутка прыйдзе ў двор –
Запісаць усіх, хто не памёр.
Дык скажы, што ты – ёсць беларуска.
І што мова родная твая –
Гэта неўміручасці маяк!
Не зважай на тых, хто яўна, Ядзя,
Беларусі незалежнай здрадзіў.
Беларусі светлай і сардэчнай,
Роднамоўнай, з верай багавечнай.
Роднай праўдай беражы здароўе.
Да радзімы стаўся ты з любоўю.



**Кліменцій Кожан,** *краязнаўца, педагог, м. Германавічы.*

# У нас ужо была "паглыбленая інтэграцыя"

**1 ліпеня 1569 года Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае вымушана пагадзілася на "паглыбленую інтэграцыю" з Польскім каралеўствам і падпісала Люблінскую унію, міжнародна-прававы акт аб'яднання ВКЛ і Польшчы ў адну федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую.**

З таго часу прайшло 450 гадоў. У наш час незалежную Рэспубліку Беларусь пэўныя сілы хочуць уключыць у склад Расіі. Вядуцца перамовы з Беларуссю аб "паглыбленай інтэграцыі", рыхтуецца падпісанне адпаведных дакументаў. Паводле ўмоў Люблінскай уніі Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае павінна было знікнуць з палітычнай карты Еўропы як асобная дзяржава. Магчыма, тое ж самае чакае і сучасную Рэспубліку Беларусь.

Нядаўна Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з прадстаўнікамі ўкраінскіх СМІ сказаў: "Слишком много не только досужих, но абсолютно неправильных, неточных разговоров вокруг обсуждения наших интеграционных процессов с Россией. Все опасаются. А чего опасаются? Мы есть суверенное, независимое государство. Не меньше, чем Украина. Да, на нас влияет Украина и Польша в разной степени. Балтийские страны в меньшей степени. В большей – Российская Федерация. Мир взаимозависимый»,– адзначыў Прэзідэнт.

"Мы суверенны и независимы. Это наше право, как выстраивать эту политику. Мы будем только укреплять суверенитет и независимость, чего бы нам это не стоило».

Аляксандр Лукашэнка ў гэтым плане расказаў падрабязнасці сваіх перамоваў з Прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным: «Мы когда с Владимиром Путиным обсуждали эту проблему (я её поднял), я ему прямо сказал: "Если у вас в правительстве или у тебя мысль о том, что мы можем войти в состав России или как-то объединиться с Российской Федерацией в одно государство, – выбрось это из головы".

Прэзідэнт Беларусі патлумачыў, чым абумоўлена такая яго пазіцыя: "Чисто эмоционально: я первый Президент в истории независимого и суверенного государства. Скажите, я что, первый Президент для того, чтобы построить это государство и когда-то его включить? Внутри какого-то государства? Нет!»

Па словах Аляксандра Лукашэнкі, расійскі Прэзідэнт запэўніў яго, што такога намеру няма. "Он говорит: «Да господь з тобой, у нас даже нет мысли такой. Такой был ответ»,– расказаў беларускі лідар.

Прэзідэнт дадаў, што некаторыя і ў Беларусі яго папракаюць у тым, што ён быццам намераны здаць суверэнітэт і незалежнасць. "Глупость полная. Плевать мне на мою эту власть. Я 25 лет Президент, и я что, на 26-м году своего президенства должен поставить крест не только на независимой Беларуси, но и вообще на мечтании белорусов, которые веками мечтали быть независимыми?» – заявіў ён.

"Сейчас мы суверенны и независимы. Я что, опять под плётку должен комуто белорусов отдать? Не настолько я держусь за это кресло, чтобы сдать страну. Это моё убеждение", падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. ("НВ", №76 (4431), 27.09.2019)

Прэзідэнт Беларусі ўпэўнены, што Уладзімір Пуцін, не мае намеру далучыць Беларусь да Расіі. А вось былы старшыня ўрада Беларусі Вячаслаў Францавіч Кебіч, які раней выступаў за інтэграцыю Беларусі з Расіяй, зразумеў сваю памылку і сказаў у жніўні 2011 года: "Главная цель России – проглотить Беларусь без остатка" ("НВ", № 125-125, 19.08.2011 г). Гэтыя словы можна зразумець так: "Маленькая Беларусь не можа вытрымаць націску вялікай і магутнай Расіі". Словы В.Ф. Кебіча выклікаюць трывогу. Ці можна змірыцца з гэтым? Ці можна допусціць такое? Якія закулісныя сілы дзейнічаюць у гэтым накірунку? Хто павінен іх спыніць? Мне здаецца, што ў кастрычніку-лістападзе ў беларускім друку трэба разгарнуць дыскусію на гэту лёсавызначальную тэму. Для сродкаў масавай інфармацыі павінна быць важная думка ўсіх – ад простага грамадзяніна да Прэзідэнта краіны. Не павінны застацца ў баку палітолагі, сацыёлагі, спецыялісты па пытаннях міжнародных адносін. Старонкі газет павінны быць адкрыты для ўсіх, каго хвалюе лёс Беларусі, яе дзевяць з паловай мільёнаў людзей, іх будучыня.

"Мы ідзём на эканамічна мэтазгодныя крокі. Але незалежнасць – святое", – сказала прэс-сакратар Аляксандра Лукашэнкі Наталля Эйсмант ("НВ", №73 (4428) 17.09.2019 г.)

"Для нас, беларусаў, важна, каб не здарылася самае страшнае – не атрымалася так, што праз нейкі час мы згубім незалежнасць і суверэнітэт" ("НВ", № 53 (4408) 9.07.2019 г.)

Вядомы бізнесмен, стваральнік кампаніі "Дарыда" Уладзімір Дзялендзік лічыць, што "Беларусь должна быть самостоятельным государством. И Александру Лукашенко ни в коем случае не нужно снимать шапку перед Россией. Я много знаю Лукашенко и вижу: он кардинально изменил свою политику в последние годы. Он изменил отношение к Европе, к Америке. Опыт и возраст и мудрость сделали своё дело.

Владимир Путин не должен лезть в Беларусь и наводить здесь свои порядки. Я люблю Беларусь и хочу, чтобы наша страна была благополучной, экономически сильной и процветающей" ("НВ" , № 75 (4430), 24.09.2019 г.).

З усяго сказанага зробім выснову: Самае дарагое для нас – гэта незалежнасць. Захаваем незалежнасць – будзем мець усё, згубім незалежнасць – згубім усё: дзяржаву, гісторыю, культуру, мову, будзем не самастойнай нацыяй, а насельніцтвам паўночназаходняга краю Расійскай Федэрацыі.



# Каб калгасы змаглі купіць паліва, Віцебская вобласць атрымае 8,7 мільёна рублёў з прэзідэнцкага фонду

**Лукашэнка падпісаў указ аб выдзяленні сродкаў: Віцебская вобласць атрымае на набыццё гаруча-змазачных матэрыялаў 8 700 000 рублёў.**

Сродкі перадаюцца ў выглядзе міжбюджэтнага трансферу з рэспубліканскага бюджэту за кошт рэзервовага фонду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сродкі пералічваюцца ўсім абласцям, больш Віцебшчыны атрымае толькі Гомельшчына — 9 000 000 рублёў. Акрамя закупкі паліва Брэсцкай вобласці вылучаюць яшчэ 7 000 000 рублёў, на рамонт дарогі ў Баранавічах.

*Сяржук Серабро*

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Што прадказвалі глыбоцкія старцы

Нядаўна перабіраў паклады старых газет… Нешта выкідваў у макулатуру, бо які сэнс захоўваць газеты канца 1980-х пач. – 1990-х, бо цяпер, у адрозненні ад тых часоў, ёсць інтэрнэт, і на пэўную тэму можна прачытаць дзясятак розных меркаванняў…

Патрапіла ў рукі газета "Наша Ніва" сярэдзіны 1990-х. І навошта я стаў захоўваць менавіта гэты нумар? Ага! На апошняй старонцы апублікаваны агляд чытацкай пошты, які падрыхтаваў Сяргей Харэўскі. Сярод іншага – мой допіс у "НН".

Там мной згадваецца аповяд Яніны Бацяноўскай, жыхаркі Глыбокага пра мясцовага прадказальніка Пётру Глаўніцкага. Ён, у 1930-я гг, яшчэ за "польскім часам", прадказаў неверагоднае, проста фантастычнае, ніхто ў гэта не верыў!

– І з'явіцца другі Напалеон, які пойдзе вайной на Маскву (гэта – пра Гітлера). І шмат людзей загіне.

– Беразвецкая царква праваліцца скрозь зямлю, а манастыр закрыецца разам з людзьмі!

Людзі ўсё гэта ўспрынялі толькі тады ўсур'ёз, калі манастыр у 1939-м стаўся турмой, то бок закрыўся разам з людзьмі. Царкву разбурылі дашчэнту! Як бы праваліліся скрозь зямлю!

Неяк, даўнавата, у 2006 годзе, я браў інтэрв'ю ў Уладзіміра Іванавіча Лілі, 90-гадовага старажыла вёскі Старыя Шарабаі. Ён таксама казаў, што даўней старыя людзі (магчыма, і Пётра Глаўніцкі) прадказвалі, што беразвецкая царква праваліцца скрозь зямлю! Ніхто не верыў. – Як гэта царква можа праваліцца, а манастыр закрыцца разам з людзьмі? А я, малы – паспрабую збегчы яшчэ праз адчыненыя дзверы, пакуль зачыняцца!

– Беларусь стане самастойнай дзяржавай,– казаў тады Пётра Глаўніцкі. – І мы да гэтага не дажывём. Але гэта будзе нядоўга, бо выберуць беларусы сабе свайго цара, а ён Беларусь прадасць чужынцам! Расея развaліцца – ад яе застанецца толькі сем губерняў".

Людзі дзівіліся, не верылі! Беларусь стане самастойнай краінай? Ды, лухта гэта!

А некаторыя ж і дажылі, спраўдзілі, так і сталася!

Што мы ведаем пра глыбоцкага старца Пётру Глаўніцкага. Бадай, нічога. Памятаецца, спадарыня Яніна казала, што Пётра браў удзел у будаўніцтве чыгункі Свянцяны-Беразвеч (Глыбокае) – вазіў на павозцы пясок для насыпу. Яшчэ раз імя Пётры Глаўніцкага я сустрэў выпадкова. Быў у Вільні, заначаваў у земляка Алеся Адамковіча (паходзіць з Германавічаў). Алесь дастаў кіпу папер, адзнятых у архіве, з пячаткай Таварыства Беларускай Школы. Там была заява, што Пётра Глаўніцкі згодны прадставіць у сваёй хаце пакой для арганізацыі беларускай школы ў Глыбокім.

Значыць, веры́ў у тое, што прадказваў...

# Што трэба ведаць бацькам пры выбары адзення для школьнікаў

**Заканчэнне.**
*Пачатак у № 42 (1019)*

## Рэкамендацыі па арганізацыі працоўнага месца школьніка

У школьніка павінен быць уласны стол, гэта вельмі важны момант пры арганізацыі працоўнага месца ў хатніх умовах. Разважаючы над тым, дзе ўсталяваць працоўны стол у дзіцячым пакоі, аддайце перавагу добра асветленаму месцу. Самы аптымальны варыянт – паставіць стол насупраць акна. Гэта забяспечыць натуральнае і раўнамернае асвятленне ў дзённы час сутак. Калі ў вас няма магчымасці арганізаваць працоўнае месца насупраць акна, можна ўсталяваць стол справа ці злева ад яго. Неабходна ўлічыць, якой рукой піша ваша дзіця: калі вядучая рука – правая, то святло на працоўную паверхню павінна падаць злева, а калі ваша дзіця ляўша, тады стол лепш усталяваць каля акна так, каб святло падала справа. Часта бывае, што стол можна ўсталяваць толькі ля сцяны. У такім выпадку, правільна арганізуйце штучнае асвятленне. Лепш за ўсё для працоўнага стала школьніка падыходзіць настольная лямпа на гнуткай ножцы, святло павінна быць аптымальным – не занадта цьмяным, але і не асабліва яркім.

Існуе яшчэ некалькі агульнапрынятых правіл для правільнай арганізацыі працоўнага месца школьніка:

- стальніца, за якой сядзіць дзіцяці, павінна быць на ўзроўні сонечнага спляцення;
- нельга, каб крэсла было занадта глыбокім – ідэальная глыбіня крэсла, калі яна крыху менш, чым адлегласць ад хрыстца да каленаў дзіцяці;
- усе неабходныя школьныя падручнікі павінны знаходзіцца на адлегласці выцягнутай рукі;
- абавязкова карыстацца падстаўкай для кніг.



Пры правільнай пасадцы падчас чытання галава злёгку нахіленая наперад, абодва перадплечы ляжаць на стале, кісці рук размешчаны сіметрычна, тулава знаходзіцца ад краю стала на адлегласці 3-5 см (звычайна гэта адлегласць павінна быць не менш таўшчыні кісці рукі школьніка). Ступнямі дзіця абапіраецца аб падлогу або падстаўку, ногі сагнутыя ў тазасцегнавым і каленным суставах пад прамым або злёгку тупым вуглом. Пры пісьме адлегласць паміж вачыма і сшыткам павінна быць не менш за 30 см, а сшытак неабходна паварочваць на 30 градусаў, бо так зручней пісаць, і калі гэтага не рабіць, то чалавек пачынае неўсвядомлена выгінаць цела. Пры выкананні хатняй працы сачыце, каб дзіця не заседжвалася доўга без руху, дазвольце яму адпачыць і размяцца на працягу 5 – 10 хвілін, а затым працягваць заняткі.

Заўсёды трэба памятаць, што крэсла адыгрывае важную ролю ў фарміраванні асанкі, таму, да таго, як выбраць крэсла для школьніка, варта падыходзіць з такой жа адказнасцю, як і да выбару стала. Такім чынам, першае правіла пры выбары крэсла: за рабочым сталом школьніка недапушчальныя ні офісныя крэслы з гнутымі і фігурнымі спінкамі, ні камп'ютарнае крэсла, якое круціцца. Артапеды раяць кантраляваць, каб спіна дзіцяці была шчыльна прыціснута да спінкі крэсла, так як гэта зніжае нагрузку на пазваночнік.

Пры выбары крэсла яго вышыня не мае крытычнага значэння. Так, калі крэсла занадта высокае і дзіця не дастае нагамі да падлогі, то можна ля падставы крэсла паставіць невялікую падстаўку. Трэба выконваць другое правіла: як і пры выбары стала, выбіраючы крэсла для школьніка, старанна вывучайце тое, якія матэрыялы былі выкарыстаны пры вытворчасці. Калі неабходна, патрабуйце сертыфікат якасці.

Не грэбуйце такой справай, як якасная арганізацыя працоўнага месца для школьніка, бо зручнае, бяспечнае і прасторнае працоўнае месца – заклад высокай працаздольнасці, правільнай асанкі і адказных адносінаў да вучобы!

■ **Аляксандр Гігола,**
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС.*

# Чыгунка – крыніца павышанай небяспекі!

**Не ўсе грамадзяне выконваюць меры асабістай бяспекі і пераходзяць чыгуначныя шляхі там, дзе ўздумаецца: і перад рухомым цягнікам, і пад вагонамі, а таксама праходзяць па чыгуначным палатне.**

У выніку парушальнікі ствараюць рэальную пагрозу не толькі свайму жыццю, але і іншых грамадзян. Асноўнай прычынай гібелі грамадзян пад коламі чыгуначнага транспарту з'яўляецца знаходжанне пацярпелых у стане алкагольнага ап'янення, а таксама асабістая недысцыплінаванасць пры знаходжанні паблізу крыніцы падвышанай небяспекі. У бягучым годзе за 9 месяцаў у вобласці да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне ч. 5 арт. 18.3 КоАП Рэспублікі Беларусь (праход па ч. шляхах, знаходжанне на ч. шляхах у неўсталяваных месцы) было прыцягнута да адказнасці **1311** чалавек.

У сувязі з чым хацелася б нагадаць меры асабістай бяспекі пры знаходжанні на аб'ектах чыгуначнага транспарту:




- пешаходы павінны пераходзіць чыгуначныя пуці толькі ва ўстаноўленых месцах, карыстаючыся пры гэтым пешаходнымі мастамі, тунэлямі, пераездамі.
- перад пераходам пуці па пешаходным насціле неабходна пераканацца ў адсутнасці руху цягніка, лакаматыва ці вагонаў.

Пры набліжэнні цягніка, лакаматыва або вагонаў варта спыніцца, прапусціць іх і, пераканаўшыся ў адсутнасці перасоўвання рухомага складу па суседніх шляхах, працягнуць пераход.

**Катэгарычна забараняецца:**

- хадзіць па чыгуначных шляхах.
- пераходзіць і перабягаць праз чыгуначныя пуці перад блізка ідучым цягнікам, калі адлегласць да яго менш за 400 метраў.
- пераходзіць праз дарогу адразу ж пасля праходу цягніка аднаго кірунку, не пераканаўшыся ў адсутнасці руху цягніка сустрэчнага напрамку.
- пераходзіць чыгуначныя пераезды пры закрытым шлагбаўме або паказаннях чырвонага сігналу святлафора пераезнай сігналізацыі.
- на станцыях і перагонах падлязаць пад вагоны і пералазіць праз аўтасчэпкі для праходу праз шлях.
- праходзіць уздоўж чыгуначнага шляху бліжэй за 5-ць метраў ад крайняй рэйкі. За парушэнне гэтых правілаў прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па арт. 18.3 ч. 5 КоАП Рэспублікі Беларусь: пакаранне ў выглядзе накладання штрафу ў памеры ад 0,2 да 2 базавых велічынь.

За парушэнне асобай, якая кіруе транспартным сродкам, правілаў праезду чыгуначнага пераезду: штраф у памеры ад 2 да 4 базавых велічынь.

■ **Аляксандр Гігола,**
*начальнік ААПП Глыбоцкага РАУС.*

# Пакінуў маёмасць без нагляду? Скрадуць!

**За дзевяць месяцаў 2019 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана 169 злачынстваў. З агульнай колькасці зарэгістраваных злачынстваў крадзяжы складаюць – 78, з жылля – 35.**

За ўказаны перыяд 2019 года зарэгістравана 3 крадзяжы з дачных домаўладанняў грамадзян на тэрыторыі Празароцкага, Пліскага і Абрубскага сельскіх саветаў. Асноўнымі прадметамі злачыннага замаху з'яўляюцца: садовая тэхніка і інвентар, электрапрыборы і абсталяванне, асабістыя рэчы і прадукты харчавання. Крадзяжы з дачных домаўладанняў у большасці выпадкаў здзяйсняюцца ў перыяд працаглай адсутнасці гаспадароў пасля вясновых і восеньскіх работ на прысядзібным участку, а таксама пасля летняга адпачынку. Звязана гэта, у асноўным, з бестурботным стаўленнем гаспадароў да сваёй маёмасці, якая застаецца працяглы перыяд часу без нагляду на тэрыторыі іх дачных домаўладанняў. Злачынцы выкарыстоўваюць слабую тэхнічную ўмацаванасць дамоў і гаспадарчых пабудоў, а таксама адсутнасць ахоўнай сігналізацыі. Не адзінкавыя выпадкі пранікнення ў дачныя домаўладанні асоб асацыяльных паводзін, якія не маюць пастаяннага месца жыхарства, у пошуках прадуктаў харчавання, спіртнога, для начоўкі або нядоўгага пражывання.

У мэтах захавання сваёй маёмасці пераканаўчая просьба: пры пакіданні на працяглы перыяд часу свайго жылля (у тым ліку дач пасля восеньскіх работ і адпачынку), каштоўныя рэчы везці з сабой альбо пакідаць пад наглядам сваякоў або суседзяў. Лепшы спосаб зберагчы сваю маёмасць – заключыць дагавор з Глыбоцкім аддзелам Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь і ўсталяваць ахоўную сігналізацыю. Кантактныя тэлефоны: (8-02156) 2-12-63, 2-29-24.

Калі Вы сталі ахвярай злачыннага замаху альбо валодаеце інфармацыяй аб грамадзянах, якія вядуць злачынны лад жыцця – паведаміце ў аператыўна-дзяжурную службу Глыбоцкага РАУС на тэлефоны: – 102, 2-27-02, 597-21-74 МТС; 314-89-02 Велком.

